ІВАН ФРАНКО

# ВАРОНЫ І СОВЫ

(КАЗКА)

Пераклад з украінскай мовы
А. ЯКІМОВІЧА



ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА
МЕНСК—1927



# I

Уадным вялікім лесе гнязьдзілася шмат Варон. Яны жылі тут такім вялікім гуртам, што ў цэлым лесе ня было іншае птушкі ані зьвера: увесь лес, быццам адна рэспубліка Варон. Толькі сярод лесу стаялі вялікія голыя скалы, у іх была вялікая, раскошная, цёмная пячэра, і ў той пячэры жылі Совы такім-жа вялікім гуртам, як Вароны ў лесе. Удзень вароны былі поўнымі панамі: каркалі, сядзелі на дрэвах, скалах і адчувалі сябе цалкам вольнымі. Але калі надыходзіла ноч і Вароны засыналі ў сваіх гнёздах, тады выляталі Совы з сваёй пячэры, ляцелі проста да варанячых гнёзд, забівалі кожная па аднэй Вароне і елі іх.

Доўгі час цярпелі Вароны гэта ліха, але далей не хапіла цярпеньня. Склікаў аднаго дня варанячы Староста ўвесь варанячы народ на вялікую нараду і прамовіў да іх:

— Дапякаюць нам, грамадзяне, тыя Совы. Нападаюць на нас уначы, калі мы сьпім і ня можам бараніцца. Лажучыся спаць, ніхто з нас ня пэвен за тое, ці ўстане заўтра жывым. Не, так жыць нямож-

на. Што нам з таго, што мы ўвесь дзень мучымся, шукаем пажывы, гадуем дзяцей. А тыя дармаеды увесь дзень вылежваюцца ў сваіх норах, а ўначы хапаюць нас, як сваіх. І паглядзеце толькі, мы працуем—і нас раз-у-раз усё менш становіцца, а яны гуляюць сабе і плодзяцца ды множацца на нашу пагібель. Дык вось-жа, калі так яно будзе і далей, то хутка нас зусім ня будзе. Райце, дзетачкі, што нам рабіць.

А было ў Варон пяць старых-старых дараднікаў, якія нязьменнымі служылі ва ўрадзе варанячай рэспублікі ўжо доўгія гады. Пачуўшы стараставу прамову, яны згодна кіўнулі галовамі і сказалі:

— Дзякуем табе Староста, што ты склікаў гэтую нараду. Відаць, што вельмі клапоцішся за варанячы народ. Жыць-бы табе вечна і мудра весьці парадкі сярод варанячага народу.

— Добра, добра,—прамовіў Староста.—Толькі-ж вы, мае мудрыя дараднікі, скажэце, што нам рабіць у гэты цяжкі і небясьпечны для нас час.

Тады першы дараднік, падумаўшы глыбока, прамовіў:

— Мая рада такая, найясьнейшы Староста. Совы дужыя, мы слабейшыя; совы ваююць уначы, мы-ж уначы сьпім і нічога ня бачым. Што-ж мы можам ім зрабіць. Лепш ўсяго пашлем да іх пасланца і прасем, каб зрабілі з намі мір, каб далі нам спакой, хоць-бы давялося даць ім за гэта нават які-небудзь выкуп. Вось-жа—ведаеш, што кажа прыказка:

З дужым не змагайся,
А лепш пакарайся.

— Гм,—прамовіў Староста, пачуўшы такую раду.—Не пярэчу табе, гэта вельмі разумна сказана, але... не для нас... Ну, а што другі дараднік скажа?

— Найясьнейшы Стараста,—прамовіў другі дараднік,—мне зусім не падабаецца тое, што раіў мой паважаны папярэднік. Мы будзем прасіць ласкі ў нашага заклятага ворага? Ці-ж ня досыць таго, што ён пабіў гэтак шмат нашых, і за гэта мы будзем яшчэ яму кланяцца і даваць выкуп. Не. Лепш памром усе ў чэснай бойцы, чым так будзем выжаброўваць сабе жыцьцё. А да таго падумайце толькі: нашы ворагі ня маюць ні гонару, ні сумленьня; яны нападаюць на нас уначы, забіваюць нас сонных і бяззбройных. І вы думаеце, што яны пашануюць нашых пасланцоў. А нават калі мы і ўтворым з імі згоду, то ці будуць верныя яны да канца сваёй прысязе? Я ўпэўнены, што не. А ў такім разе лепш усяго нам накіраваць усю сілу на вайну з імі, чым думаць пра гнілую згоду.

— Вельмі добра гаворыш, мой дружа,—адказаў на гэта Стараста,—але... Ну, паслухаем, што скажа трэці дараднік.

Гэты дараднік быў стары, нядужы і прамовіў хрыплым голасам:

— Гай, гай! Пэўная рэч, што нельга нам выжаброўваць ад іх свой спакой, але як-жа нам і ваяваць з тымі совамі. Усе мы ведаем, што яны дужэйшыя за нас тым, што ваююць поначы і нападаюць на сонных. Як толькі апавесьцім іх аб вайне, дык будзьце ўпэўнены, што не дачакаем і да першай бойкі, бо зараз-жа першай ноччу яны нападуць на нас і зьнішчаць усіх да рэшты. А мая рада такая: пакіньма гэты няшчасны лес і гэта паганае суседзтва, уцякайма адсюль, пакуль жывы і здаровы і шукайма сабе іншага месца.

— Гм-гм, прамовіў Староста, ківаючы галавой.—Гэта таксама рада. Ну, але пачуем, што скажа чацьверты дараднік.

— Я-б раіў, найясьнейшы Стараста, ня квапіцца ані з вайною, ні з утварэньнем згоды, ані з уцяканьнем, а пачакаць, што будзе далей. Яшчэ-ж, як не кажы, а ўсё ня гінем. А ну-ж Совы апамятаюцца і самі дадуць нам спакой?—вось-жа і ў іх можа зьявіцца сумленьне. Або можа яны перабяруцца дзе-небудзь у іншае месца. Усё можа быць. Ляпей за ўсё пачакайма, што час пакажа.

Астатні дараднік быў старэнькі, згорблены Каркайла. Да яго абярнуўся Стараста нарэшце і прагаварыў:

— Ну, а ты, Каркайла, што скажаш?

— А што-ж я магу сказаць?! Усе мае папярэднікі раілі вельмі мудра. Добра і спакой, але толькі ў свой час. Добра і вайна, але таксама ў свой час. Ня дрэнна, нават, і ўцячы ад ворага, калі няма іншай рады, ня дрэнна й пачакаць. Толькі тое дрэнна, што мой папярэднік раіў: пачакаць, пакуль у Соваў зьявіцца сумленьне і яны самі з добрай волі дадуць нам спакой. Вы, мабыць, думаеце, што тыя Совы так сабе, з добрага дзіва распачалі з намі вайну. Ой не, гэта ў іх здаўна ад дзядоў-прадзядоў такі звычай і такая ўстанова. А ведаеце чаму?

— Не, ня ведаем,—закрычалі Вароны.

— Ну, дык слухайце-ж, я вам раскажу,—прамовіў Каркайла.



## II

Было калісьці так, што ўсе птахі сабраліся ў гурт і пачалі меркаваць, што добра было-б, калі-б яны мелі ў сябе цара.

Шмат было там усялякіх думак адносна гэтага. Кожны гаварыў, што ведаў: куры кудкудахкалі, гусі гагэкалі, качкі такалі, жураўлі курлыкалі, дробнае птаства пішчала,—словам, гоман быў страшэнны. Толькі адна Сава, надзьмуўшыся, сядзела ціха і выдавала сябе за мудрую. Птахі гэта заўважылі і кажуць паміж сябе:

— Гэй, слухайце! Вось тая Сава маўчыць, напэўна яна ведае больш за нас усіх.

— А напэўна,—прамовілі іншыя:—падзівецеся, якая ў яе галава вялікая.

— Яшчэ й акуляры на носе. Яна напэўна ўвесь дзень кнігі ды газэты чытае.

— Ведаеце што, яна, мабыць, была-б добрым ды мудрым царом. А гэта вельмі патрэбна, каб цар мудрым быў: гэта так рэдка бывае.

— Добра! Добра!

Пашла гэта пагалоска паміж усім птаствам і ўсе крыкнулі:—Добра, добра! Сава няхай будзе царом! Выбіраем Саву! Саву!

Як згода, дык і згода. Зараз пачалі зносіць усё начэньне царскае: карону, трон, кадзіла і яшчэ шмат прыладаў. Пачаліся сьпевы. Дзятлы дзюбамі выкрасілі агню, расклалі падарункі і накідалі ў агонь пахучага курава; адным словам, парад, як парад.

Аж тут аднекуль прылятае Варона. Яна была на парадзе і цяпер, лецячы над тым месцам, убачыла птушыную нараду і падумала сабе:

— Што гэта такое? Трэба пацікавіцца.

А птахі, убачыўшы Варону, пачалі гаманіць:

— Вось ляціць Варона. Варта паслухаць, што яна скажа. Такі-ж яна такасама разумная птушка: з нерата рыбу вымае.

Падляцела Варона, прывіталася з гуртам і пытае:

— А што гэта ў вас за зборышча такое? Якое сьвята спраўляеце? Ці Сініцу замуж аддаеце, ці можа Чыжыкавым дзецям імяніны спраўляеце?

— Не ўгадала! Не ўгадала,—загукалі птахі.— Цара выбіраем.

— Цара выбіраеце? Падурнелі ці што? А за каго-ж галасуеце?

— Ды, бачыш, за Саву. Думаем, што яна наймудрэйшая за нас усіх, дык няхай-бы была царом.

— Сава?! Наймудрэйшая?! Сава будзе за цара? Ды што вы, падурнелі? Ці вачэй ня маеце? Вось гэта пудала, гэта крывадзюбая, што й слова папалюдзку ня ўмее сказаць, будзе царом? Яна маўчыць не таму, што ўсё знае, а таму, што дурная, як пень. А яе акуляры—гэта адна мана,—яна нават літараў ня ведае. Не, калі мае так стацца, дык я не хачу прызнавацца нават таму, што з яйца выклявалася, сорамна мне будзе за такога цара нашага. Хоцьбы ўжо выбралі Паву, Жураўля або, урэшце, хоць

Арла. Кажаце, што ён дбае толькі на сваю дзюбу. Дык-жа так заўсёды было. Хіба ёсьць дзе іншыя цары? Цары заўсёды і ўсюды найпершыя здраднікі. А ўсё-ж, калі-б выбралі Арла, дык было-б хоць на каго абаперціся. Вось так, як на той Месяц, на які абаперліся Зайцы, ваюючы з Сланамі.

— Які месяц? Якія Зайцы?—закрычалі птушкі.—А гэта-ж што за цуды? Як-жа так Зайцы абаперліся на Месяц. Ну, кажы?

— Слухайце,—прамовіла Варона,—Я вам раскажу гэту гісторыю.

---



## III

Было гэта ня ў нашым краі, а далёка-далёка, у гарачых старонках. У адным вялізарным лесе жыло шмат Сланоў і мелі яны свайго старшыню Чатырызуба. Жылі яны ў тым лесе цэлыя вякі спакойна, але вось аднаго разу настала вялікая сухмень. Усе раўкі, балотцы і вазёры павысыхалі. Сланы ня мелі дзе ня толькі купацца, але нават напіцца. З такім клопатам сабралася ўся грамада навакол свайго Старшыні і кажа яму:

— Слухайце, дзядзька, Чатырызуб, ці вы ня бачыце, якая бяда навалілася на нас. Вады няма нідзе, хоць згінь. Мы ўсе ходзім ужо па тыдню няўмытымі, а нашы дзеці вянуць ды гінуць са смагі. Вось-жа твая справа дбаць, каб нам была вада.

— Я й дбаю,—прамовіў Чатырызуб,—я ўжо тыдзень таму назад як выслаў на ўсе бакі пасланцоў, каб разьведалі, дзе тут блізка ці далёка маецца добрая вада, каб яе можна было скарыстаць нам для свае патрэбы.

Яшчэ ён ня скончыў сваіх слоў, як надышлі пасланцы і гавораць:

— Маем ваду! Маем ваду! Ідзеце!

Ня доўга думаючы, сабраліся ўсе Сланы і рушылі ў дарогу. Ішлі яны ня доўга і ня коратка, а пяць дзён і пяць начэй, пакуль не дайшлі да вялікага возера, якое ляжала пасярод лясоў на шырокай палянцы, заросшай карчамі і травою. Сланам страшэнна падабалася новая мясьціна. У возеры маглі сабе купацца і плюхацца цалюткі дзень, а ўвечары знаходзілі сабе багатую пашу на палянцы і ў вакольных лясох.



Але на той-жа самай палянцы спакон веку жыла нязьлічоная сіла Зайцаў і Трусоў. Пад кожным карчом былі іх ямкі, выкапаныя ў мяккай, пухкай зямлі. Лёгка зразумець, што як Сланы спыніліся тут, Зайцам прышлося крута. У першыя-ж дні Сланы сваімі нажышчамі парастрыбушвалі шмат Заячых гнёзд, падушылі шмат Зайчанят, ды й старым Зайцам не аднаму давялося: гэтаму адтапталі адну нагу, таму дзьве, а калі каму расьціснулі галаву, дык той быў яшчэ й шчасьлівым.

Бачачы такое сваё няшчасьце, зьбегліся ўсе Зайцы на раду. Ой, колькі там было ёйканьня, плачу і нараканьняў. Адны раілі сабрацца ўсім з гэтай палянкі і ўцякаць ва ўвесь дух, куды ногі нясуць, бо дзе-ж ты што з Сланамі зробіш: яны такія вялікія і дужыя. Але іншыя, больш растаропныя, кажуць:

— Ды пачакайце-ж бо. Яшчэ-ж не канец, каб мы так, ні села, ні пала, пакідалі сваю родную бацькаўшчыну. На кожны спосаб ёсьць яшчэ спосаб. Трэба толькі падумаць.

Доўга яны думалі і не маглі нічога выдумаць. Далей выступіў адзін Заяц, Доўгаслухам называўся, і сказаў:

— Чакайце, браткі! Я маю спосаб і спадзяюся, што нават яшчэ сёньня збудзем мы няпрошаных гасьцей.

І ня кажучы нічога больш, пашоў у гушчар, дзе пасьвіліся Сланы.

Падышоўшы, ён прывітаўся ласкава і кажа:

— Завядзеце мяне да свайго Старшыні, маю яму сказаць штосьці вельмі важнае.

Сланы завялі яго да Чатырызуба.

Стаўшы перад ім на заднія лапкі, Заяц прамовіў:

— Яснавяльможны Чатырызубе! Прышоў да цябе я не па ўласнай волі, а як пасланец нашага яснага і бесьмяртэльнага заступніка Месяца.

— Так? Дык Месяц ёсьць заступнік ваш?—запытаў Слон.

— А так. І ён паслаў мяне гэта да цябе і загадаў заявіць вось што: «Маё сэрца засмучана, мой твар зацемнены, мая душа ў цяжкой жалобе. Бо прышлі Сланы, ня пытаўшыся, занялі маю палянку,

не прасіўшыся, пакаламуцілі маё возера без дазвалення. І сваімі нагамі яны патрыбушылі хаткі маіх Зайцоў, падушылі бязьвінных дзетачак, пакалечылі старых, пралілі на зямлю кроў бязьвінную». І гаворыць табе наш ясны Месяц маімі вуснамі: «Загневаюся цяжка на гэтых злачынцаў, перамяню ім ўсю ваду ў кроў, а ўсю пашу ў пустэчу, напушчу на іх цяжкое хваробы й заразы, калі будуць далей не слухаць мяне».

Пачуўшы такую гутарку, Слон Чатырызуб аж асупеў ад страху. Як кожны такі вісус, ён быў з добрай душой і мяккім сэрцам.

— Ой, ліханька маё!—закрычаў ён.— Ды мы-ж і не ведалі нічагусенькі. Ні з таго, ні з сяго, глядзі, у які цяжкі грэх ускочылі: яшчэ і гнеў магутнага Месяца на сябе навялі. Што-ж нам рабіць цяпер?

— Ідзі, вялікамагутны Чатырызубе,—гаварыў далей Заяц Доўгаслух,—ідзі за мною. Стань перад ясным тварам нашага заступніка, перапрасі яго, можа ён табе параіць, што рабіць цяпер.

Слон з засмучаным сэрцам пашоў за Зайцам. Была ясная месячная ноч. Месяц упоўні стаяў на небе. Заяц прытарабаніў Слана проста да возера.

— Вось бачыш, вялікамагутны Чатырызубе,—казаў ён:—наш заступнік сама што купаецца ў сваім возеры. Пакланіся яму здалёк, але не гавары да яго нічога. Бачыш, які ён сумны, якія маршчакі на яго чале распаўзьліся. Гэта ён гневаецца на вас.

Слон пакланіўся Месяцу і стаяў ціха на беразе возера.

— Дакраніся трубою сваёю да гэтага возера,—кажа далей Заяц.—Можа магутны Месяц дасьць які-небудзь знак, што рабіць табе далей.

Слон паслухаўся Зайцавых слоў і боўтнуў свой хобат у ваду. У гэту хвіліну гладкая паверхня во-

зера зморшчылася, захвалявала, і з ёю разам закалыхаўся адбітак Месяца ў вадзе.

— Ну, цешся, вялікамагутны Чатырызубе,—радасна прамовіў Заяц.—Наш заступнік прымае твой паклон: бачыш, як ласкава паківаў галавою і загадвае табе з усёй грамадою ісьці далей на ўсход сонца. Пройдзеце тры дні ў дарозе і знойдзеце там другое возера і другую палянку й будзеце там жыць шчасьліва.

Радасна пакланіўся Слон яшчэ раз Месяцу і пашоў. І нават яшчэ той-жа самай ночы ўсе Сланы выбраліся з таго месца, а Зайцы жывуць там і дасюль спакойна.

— Вось, мае мілыя,—скончыла Варона,—прыклад таго, што значыць мець дужага апякуна. Адно імя, адзін вобраз яго можа напужаць ворага. Ну, а Савою каго вы напужаеце? Ды яшчэ, каб вы ведалі, што гэта за паганая, зладзейская, гадкая ды брыдкая птушка. Не здарма яна баіцца сьвету дня. У яе сумленьне зладзейскае, вось яно што. А мець такога злодзея за цара, дык гэта выдзе тое самае, як Верабей са Шпакам да Ката на суд хадзілі.

— А гэта-ж як было?—гуртам запыталі птушкі.

— Дык вы ня ведаеце й гэтага?—прамовіла Варона.—Ну, то добра, слухайце-ж, я вам раскажу і гэту гісторыю.



## IV

Аднаго разу мела я гняздо на верхавіне вялізарнай высокай тапалі. Недалёка ад мяне, на вяршку той самай тапалі ў добрай дуплявіне зьвіў сабе гняздо Верабей. Вельмі ён мне падабаўся, бо быў добры сусед і разумная галава. Бывала ўвечары да захаду сонца ня раз сядзім сабе ў сваіх гнёздах і размаўляем з ім пра ўсялякія рэчы. Шчырая душа была.

Ды вось аднаго разу, калі пасьпела збажына ў агародах, мой Верабейка як паляцеў зраньня, дык і ўвечары не вярнуўся.

«Што гэта з ім сталася?—падумала я.—Ці ня трапілася яму якое ліхое здарэньне. Можа хто бядака забіў або ў сіло злавіў у просе».

Пасумавала я, ды што зробіш з бядою. Мінула ноч, Вераб'я няма. Мінуў дзень, далей другі, трэці, а яго ўсё няма й няма.

«Напэўна загінуў дзе-небудзь небарака»,—падумала я.

Чацьвертага дня прыляцеў Шпак, пасядзеў на тапалі і, убачыўшы дуплё, а ў ім парожнае гняздо, залез у яго. Пераначаваў адну ноч, і спадабалася

яму Вераб'ёва хатка. На другі дзень ён ужо зусім разгаспадарыўся тут.

Ня вельмі гэта мне спадабалася, бо з Шпакамі і Сарокамі я ня люблю вадзіць хэўры. «Але што,— думаю сабе.—Вераб'я няма, дык якое-ж я маю права ўмешвацца ў справы падзелу яго кватэры. Па мне, няхай сабе й Шпак сядзіць».

Але-ж, вось, праз тыдзень так, прылятае мой Верабей. Ён лятаў у суседнюю вёску на проса і такі прыляцеў поўны, круглы ды тоўсьценькі, як грудка масла. Пабачыўшы Шпака ў сваім гнязьдзе, ён крыкнуў да яго:

— Гэй ты, Чарнагруды. Гэта маё гняздо. Калі ты заблудзіў сюды зьнячэўку, дык прашу цябе, выбірайся з маёй хаты!

— Угга, які ты мне гаспадар тут!? Гэта мая хата, а не твая. Адкуль-жа ты такі ўзяўся каб выганяць мяне з майго ўласнага кутка!

— Твая хата?!—закрычаў Верабей і чубок яго ўзьняўся ад злосьці.—Што гэта ты гаворыш? Якое ты маеш права на яе?!

— А вось такое права, што сяджу я ў ёй.

— Э-гэ-гэ! Гэта зладзейскае права. Я яе будаваў, я ў ёй жыў цэлы год, а ты проста разбоем забіраеш у мяне маё... Вон пашоў адсюль!

— Калі-ж мне ня хочацца. Я тут гаспадар, а ты куляйся сабе на ўсе чатыры бакі.

Адным словам, пасварыліся абое добра, а пасьля згадзіліся на тым, каб ісьці на суд.

— Гэтага ня можа быць. Я павінен знайці сваё права,—гарачыўся Верабей.

Я чула ўсю іх размову і зацікавілася, якога гэта судзьдзю яны сабе знойдуць. І вось, калі абодва ворагі паляцелі, я назіркам давай сачыць за імі.

Ляцяць яны нізам, а я над імі. Відаць мне ўсё навакол. Бачу, недалёка ад нашай таполі меў сваё гняздо дзікі Кот. Ён якраз тады ляжаў недалёка і чуў сварку Вераб'я са Шпакам. А як яны дагаварыліся да таго, што трэба йсьці на суд, мой Кот жвава ўскочыў на высокі камень, стаў на адной назе, упіўся вачыма ў сонца, падняў пярэднія лапы, нібы хрысьцячыся, і муркоча сабе малітэўкі розныя:

Аўсяная салома добрая,
Ячная салома дрэнная,
Аржаная салома
яшчэ горшая...

Верабей і Шпак, лецячы якраз ля тато месца, убачылі Ката. Спыніліся і пачалі прыслухоўвацца да яго малітэўкаў.



— Слухай,—прамовіў Шпак,—гэта напэўна, набожны, мудры і справядлівы чалавек. Хадзем да яго: ужо калі ён нас не рассудзіць па справядліваму, то я ўжо й ня ведаю, дзе нам лепшага судзьдзю знайці.

— Але-ж гэта Кот,—прамовіў Верабей.—Гэта наш закляты вораг. Як-жа нам ісьці на суд да яго.

— Ну, дык станьма здалёк,—кажа Шпак.—Пасядзем вось тут на галінцы і раскажам яму сваю справу.

— Добра, сядайма.

І сапраўды, абодва ворагі паселі на галінцы над Катом, пакланіліся яму, а Шпак прамовіў:

— Найясьнейшы мудры і справядлівы Коця! Мы прышлі да цябе, каб ты рассудзіў нашу справу. У нас адбылася сварка. Выслухай нас, а каго прызнаеш вінаватым, таго можаш зьесьці.

— Зьесьці,—жаласна прамарматаў кот.—Але-ж, дзеткі мае, што вы гэта кажаце. Ужо тры дні і тры тыдні, як я зарокся есьці мясную страву й глуміць птушак. Не, нікога я ня зьем, але рассуджу вас па шчырай праўдзе. Толькі, мілыя мае, я стары, глухі. Хадзеце бліжэй, вось сюды да мяне, і раскажэце, што там за сварка ў вас вышла.

Абодва ворагі паверылі хітраму Кату, зьляцелі з галінкі і пасталі перад ім. А яму, драпежніку, толькі гэтага й трэба было. Адным махам скочыў, ухапіў аднаго ў свае кепці, а другога ў зубы, пазагрызаў абаіх, і, радасна муркаючы, панёс да свайго гнязда.

— Вось так,—скончыла сваю прамову Варона,— будзе й вам усім, калі выбярэце сабе цара, ды яшчэ й Саву. Уначы вы сьпіце, а яна бачыць усё і лятае, і будзе вам шкодзіць. А ўдзень, калі вы лятаеце, вам трэба дапамога,—яна сьляпая, ня бачыць нічога і сьпіць у сваім дупле. Якая-ж вам з яе будзе карысьць.

Пачуўшы гэта, птушкі падумалі:

— Праўду кажа Варона. Навошта нам той цар наогул ды яшчэ такі асталоп, як тая Сава. Лепш усяго зьбіраймася адсюль і будзем жыць так, як жылі дагэтуль.

І ня доўга думаючы, усе разьляцеліся.

Засталіся толькі Сава і Варона. Сава сядзела на прастоле, чакала каранацыі і дзівілася, чаго гэта раптам усе птушкі паразьляталіся. А Варона пачала жартаваць з яе.

— Доўга табе, кумка, чакаць давядзецца. Ды ты лепш не чакай, бо з твае каранацыі так-такі нічога й ня выйдзе. Хіба ня бачыш, што ўсе птушкі разьляцеліся?

— Га, паганая Варона,—крыкнула Сава.—Я знаю, гэта ты настрэнчыла іх проці мяне. Але чакай, я табе гэтага не падарую. З гэтага часу я і ўвесь мой род апавяшчаем вайну табе і твайму роду.



— Вось тая вайна, шаноўны Староста,—скончыў стары Каркайла,— вядзецца й дагэтуль і ня скончыцца, мабыць, ніколі.

— Дык, што-ж нам у такім разе рабіць?

— Я думаю,—сказаў Каркайла,—што трэба з усіх тых радаў, якія тут досыць былі абгавораны,

узяць патрошку з кожнай. Трэба паслаць каго-небудзь да Соваў.—Гэта так. Трэба ваяваць з імі—гэта напэўна. Ды разам з тым трэба трымацца ў спакою—гэта разумна. Каб нас не пазабівалі—мусім уцякаць, а калі хочам перамагчы—мусім пачакаць. Але да гэтага ўсяго трэба яшчэ адно. Трэба мець спосаб, каб усе гэтыя парады злучыць у адно цэлае. Трэба хітрасьць.

Усе Вароны сядзелі, паразяўляўшы дзюбы, слухаючы такую мудрую раду, але ніхто не разумеў яе значэньня.

— Мудра ты радзіш, дзядзечка,—сказаў вараннячы Стараста,—ала няхай мяне гром паб'е, калі я разумею, да чаго ты гнеш гэта.

— Да таго гну, што трэба нам пайці на хітрыкі ў вайне з Совамі, вось што,—гаварыў Каркайла.—Трэба нам мець раду і зрабіць з імі так, як тры Крумкачы зрабілі з Каршуном.

— А як-жа яны зрабілі з імі,—запыталі Вароны.

— Гэта цікавая гісторыя,—сказаў Каркайла.—Слухайце-ж, як тое калісьці было.



V

Ляцелі аднаго разу тры Крумкачы, ды галодныя - галодныя. Глядзяць гэта яны, аж Каршун згары скочыў на хату, злавіў голуба й нясе яго ў кіпдзюрах да лесу, на сьнеданьне сабе.

— Вось-бы нам хоць такога голуба дастаць,— уздыхнуў адзін Крумкач.

— Усе ўтраіх мы-б не наеліся, але хоць трохі падмацаваліся-б,—дадаў другі.

— А давайце адбярэм ад Каршуна яго здабычу,—сказаў трэці.

— Адабраць, але як? Дужы падла, а па добрай волі не аддасьць.

— А можа й дасьць. Слухайце, што я прыдумаў,—сказаў трэці Крумкач.

Усе ўтраіх стуліліся галовамі разам, пашапталі сабе штосьці пасвойму, а пасьля жыва разьляцеліся так, што Каршун і зусім іх ня бачыў, і паселі кожны на асобным дрэве ды так, каб Каршун, лецячы да лесу, мусіў ляцець каля іх. Калі Каршун падлецеў да першага Крумкача, ён зьляцеў з дрэва, параўняўся з Каршуном ды й крычыць:

— Добры дзень вам, дзядзечка!

— Добрага здароўя!—буркнуў Каршун, а сам крывіцца на Крумкача тым вокам, што на Сабаку глядзіць. А цябе якое ліха да мяне нясе.

— Відаць, што крута вам прышлося, дзядзечка,—сказаў Крумкач,—калі вы ўжо пусьціліся вудвудаў лавіць.

— Якіх вудвудаў?—крыкнуў Каршун.

А трэба вам ведаць, што Каршун лепш здохне з голаду, чым будзе вудвудзяціну есьці: страх ня любіць гэтага смаку.

— А вось-жа вудвуда несяце,—жартуе Крумкач.

— Што ты асьлёп, ці што? Ня бачыш, што гэта голуб,—злуецца Каршун.



— Голуб?—дзівіцца Крумкач.—Дай ты рады, першы раз такога голуба бачу. Я-б прысягнуў, што гэта вудвуд. Ну, ды калі так хочаце, дык няхай будзе й голуб.

І паляцеў ад яго. Каршун ляціць далей злосны ўжо, аж на спатканьне яму другі Крумкач.

— Здаровенькі будзьце, дзядзька!

— Згінь ты са сваім родам паганым,—крыкнуў на яго Каршун.

— Ой, а чаго-ж гэта вы такі нядобры. Я-ж не вінаваты таму, што спаткаўся з вамі. Ці можа засароміліся, што я ўбачыў, як вы вудвуда несяцё. Што-ж, дзядзячка, голад ня цётка. Калі няма голуба, дык трэба грэшнае цела хоць вудвузяцінай пасілкаваць.

— Ды ці ты з глузду зьехаў, ці што? Хіба ня бачыш, што гэта голуб, а ня вудвуд.

— Я, дзядзечка, добра бачу, але вам з вялікага голаду трохі вакі падцягнула. Ну, але вы ня бойцеся. Я-ж ад вас вашага вудвуда не адбіраю. Уплятайце сабе яго на здароўе. Я-б і так ня ўзяў яго ў рот, каб мне няма ведама што давалі... Цьфу!

І паляцеў сабе далей.

«Што за ліха?—думае сабе Каршун.—Ці я дурны, ці яны. А можа й праўда я са сполаху замест голуба ды праклятага вудвуда схапіў. Цьфу! А сапраўды пахне штосьці не тае, ня голубам. Але падобнасьць галубячая».

Каршун бедны ўжо пачынае сваім вачам ня верыць.

«Можа й сапраўды ў мяне якая курыная сьлепата або што іншае. Вось пачакаю. Вунь ляціць яшчэ адзін Крумкач, што ён скажа».

І тут-жа супроць яго падляцеў трэці Крумкач.

— Здаровенькі будзьце, дзядзечка!—закрычаў ён.—А куды гэта вы вудвуда нясеце? Што? Можа Мядзьведзя калацьцё ўзяло, дык вы хочаце даць яму вудвудзяціны замест лякарства?

— Прападзі ты з сваім Мядзьведзем і з вудвудзяцінай,—крыкнуў засаромлены Каршун і выпусьціў голуба з кіпдзюроў.—Сапраўды, калі табе трое кажуць, што ты п'яны, дык лажыся спаць, а калі тры сьведкі сказалі, што гэта вудвуд, як-жа не паверыць?

І ён паляцеў далей, а Крумкачы кінуліся на голуба і зьелі яго.

— Вось так і мы павінны адшукаць спосаб, каб перамагчы нашых ворагаў,—скончыў сваю прамову Каркайла.

— Вельмі добра,—згадзіўся Старшыня,—але які-ж можа быць спосаб? Скажы, калі ведаеш, бо я ніяк нічога ня прыдумаю.

— Адзін спосаб я знаю,—сказаў Каркайла.— Але магу яго сказаць толькі табе і то сам-на-сам.

— Ну, калі ня можна іначай, дык няхай будзе так,—прамовіў Старшыня і павёў Каркайлу да свайго пакою, а замкнуўшы дзьверы, прагаварыў:

— Ну, цяпер, кажы.



VI

Слухай, Старшыня, мой спосаб такі,— сказаў Каркайла.—Прыкінься ты на мяне злосным, выкінь мяне за дзьверы, перад усім народам крычы, што я хацеў табе здрадзіць, даў дрэнную раду, пабі й пакрываў мяне добра, але-ж помні, добра пакрываў, не шкадуючы і, пакінуўшы мяне ў лесе, зьбірайся з усім народам і ляці вон з гэтага лесу. Ляці далёка, аж на Чорнагару, і там чакай мяне. Я тымчасам пастараюся дабрацца да Савінага замка і разьведаць, як-бы гэта можна было іх найлягчэй перамагчы. А калі ўсё разьведаю, як сьлед, тады прыляту да вас і дам вам ведаць. Ня бойся за мяне. Я ўпэўнены, што ўсё мне ўдасца, як належыць.

Абгаварылі справу дакладна і Старшыня згадзіўся з Каркайлавай радай. З грукатам ён адчыніў дзьверы, б'ючы Каркайлу крыльлямі і дзюбай і дрэпаючы яго кепцямі. А калі выкінуў яго, пачаў перад усім народам крычаць:

— Ах ты, здраднік! Ах ты, прадажнік! Гэта так ты верна служыш Варонам? Не, я разарву цябе на кавалачкі.

І ён біў і дрэпаў беднага Каркайлу, пакуль той пакалечаным і скрываўленым ня ўпаў на зямлю.

— Там і загінь,—крыкнуў Старшыня.—А вы, дзетачкі, зьбірайцеся ўсе ў дарогу. Сапраўды бачу я, што годзе нам тут жыць, калі пад самым бокам, як вужака, крущіцца чорная здрада. Хадзем шукаць сабе іншага месца.



З вялікім шумам і гамам падняліся Вароны з сваіх спрадвечных гнёздаў, разьвіталіся са сваёй бацькаўшчынай і ўсьлед за Старшынёй паляцелі на Чорнагару.

Совы ў сваім замчышчы чулі гэты шум, крык, але ня ведалі, што ён азначае. А калі настаў вечар і добра сьцямнела, яны вылецелі як звычайна на паляваньне. Кінуліся сюды-туды да гнёзд Варонаў—парожна, як вымецена. Ня то што Варонаў—жаднай жывой душы няма. Што за дзіва? Шукаюць Совы, шнарацаь па лесе, аж чуюць: пад адным дубам нешта стогне і трэплецца. Прыляцелі бліжэй, аж гэта Воран.

— А, вось дзе ён,—закрычалі Совы і кінуліся, каб разарваць яго.

— Пачакайце, пачакайце,—слабым голасам прамовіў Каркайла.—Не забівайце мяне. Самі бачыце, мне ўжо й так ня доўга да сьмерці. Але прашу вас, завядзеце мяне да свайго Старшыні. Я хацеў-бы перад сьмерцю сказаць яму адну вельмі й вельмі важную рэч.

Паслухалі Совы Каркайлу, узялі яго лёганька пад крыльлі і прынесьлі да свайго Старшыні Лупатага.

— Вельмі шаноўны савіны Старшыня—прамовіў Каркайла, ледзьве трымаючыся на нагах.—Я завуся Каркайлам і яшчэ сёньня быў найстарэйшым міністрам у Варон. Але праз сваю прыхільнасьць да вас, Соваў, праз сваю раду я папаў у няласку, пацярпеў ганьбу і пабоі, ад якіх, мабыць, ужо й не адчуняю.

— Што-ж гэта за гісторыя была ў вас і дзе падзеліся ўсе Вароны?

— Паляцелі вон са страху перад вамі... Я раіў свайму Старшыні не задзірацца з вамі, паслаць да вас пасланцоў з падарункамі і жыць з вамі ў згодзе. Ой, ліханька маё! Ён ня толькі не паслухаў мае рады, але прызнаў мяне здраднікам і чуць не забіў.

— Куды-ж Вароны паляцелі?

Але Каркайла прыкінуўся зусім памірае й прастагнаў:

— Ой, паміраю! Загадай, паважаны савіны Старшыня, сваім лекарам абгледзець мяне і паперавязваць мае раны. Загадай даць мне трохі вады і чым-колечы падмацавацца. Я хацеў-бы расказаць табе аб усіх меркаваньнях і плянах лютага нашага Старшыні і яго злых дараднікаў. Я быў на іх нарадзе, чуў, якую страшную штуку прыдумалі яны

супроць вас і хацеў-бы перад сьмерцю папярэдзіць цябе аб усім гэтым.

У Лупатага аж мурашкі пашлі па целе, як ён пачуў Каркайлаву прамову. Жыва загадаў лекарам абгледзець і пазавязваць раны Каркайлы, загадаў слугам накарміць і напаіць яго. А калі Каркайла трохі ачуняў, Лупаты загадаў прывесьці яго да сябе і прамовіў:

— Ну, цяпер кажы!



## VII

Злыя дараднікі—гэта найбольшае ліха,—прамовіў Каркайла, стоячы перад Старшынёй Соваў Лупатым.—Такое ліха выпала й нам, Воронам. Зажадалася нашаму Старшыні канечна ваяваць з вамі; а хто йдзе супроць гэтай вайны, той у яго здраднік. І колькі там на нарадзе яны ламалі галовы сабе, якім спосабам ваяваць з вамі! Адны раілі заклікаць на вас Каршуноў, другія хацелі ўвайсьці ў хаўрус з Мышамі і Пацукамі, іншыя патрабавалі таго, каб вароны перамаглі сябе, ня спалі ўначы і змагаліся з вамі вока-на-вока. Ну, а я з усяго гэтага сьмяяўся, бо ведаў, што нічога талковага з таго ня выйдзе. Але калі адзін пачаў раіць, каб вызнаць дзе ваша замчышча і ўсе вашы схованкі й напасьці на вас удзень, калі вы сьпіцё, і пазабіваць вас усіх разам, вось тады маё сэрца сьціснулася страхам за вашу долю. Бо я ведаў, што ўдзень вы бяззбройны таксама, як мы ўначы.

— Ці бачыш, якія мудрыя!—крыкнуў Лупаты.— Удзень на нас напасьці зьбіраюцца. Гэта сапраўды нядобрым пахне.

— Я ведаў гэта, шаноўны Старшыня,—сказаў Каркайла,—і таму, наколькі сілы меў, падняў голас супроць такой рады. «Як гэта—кажу—мы можам карыстацца такім нячэсным спосабам і нападаць на сонных. Гэта-ж была-б вечная ганьба ўсяму варанячаму роду!»

— А так, а так!—запішчалі ўсе Совы.—Вечная ганьба для вас! Гэта нячэсна, гэта зусім пагана! Фэ! фэ! фэ!

— А падругое, сказаў я,—гаварыў Каркайла:— ня так лёгка выведаць Савіныя схованкі. У іх замку пануе вечная цемра і вы, хоць і ўляціце туды, нічога не пабачыце там!

— Але дарэмнымі былі мае словы,—гаварыў Каркайла.—Калі ўжо наважыліся нашы ваяваць, дык ім што ні гавары, а ўсё быццам гарохам аб сьцяну. Тады я ўстаў і кажу: «Калі так, дык я ня бачу іншага спосабу, як пайці і расказаць усё Совам. І пакуль вы зьберацеся на тую бязглуздую вайну, Совы яшчэ гэтай ноччу выскачаць са свайго замку і пазабіваюць вас усіх». Гэтыя словы зрабілі перапалох між Варон. А Старшыня, здурнеўшы ад вайсковага запалу, кінуўся на мяне са сваімі дараднікамі і давай мяне біць, дрэпаць і калечыць. Там-бы, напэўна, і сьмерць была мне, каб я не затышчыўся пад карэньні старога дуба, адкуль ужо не маглі мяне выцягнуць. Тады Старшыня крыкнуў:

— Ну, досыць з яго. Спадзяюся, што гэты здраднік тут і сканае ў той яме. А мы ўсе ляцем у чужы край, за дзевяць гор. Там будзем жыць спакойна, пакуль нашы шпіёны не абгледзяць добра савінага замчышча. А тады мы прыляцім, уварвемся да іх схованкі і пазабіваем усіх да рэшты.

Усе маўчалі, пачуўшы такую прамову. Задумаўся і Лупаты. А было ў Соваў таксама пяць дарад-

нікаў. І Лупаты пасьля цяжкога раздумленьня зьвярнуўся да іх:

— Нашы дараднікі! Самі вы бачыце, як стаіць справа. Вось гэты Каркайла, найстарэйшы дараднік нашага ворага, расказў нам усе пляны нашага непрыяцеля. Што-ж нам цяпер рабіць?



VIII

Першы дараднік, падумаўшы хвіліну, прамовіў:

— Я мяркую так, што трэба нам скарыстаць гэтага хаўрусьніка, якога так неспадзявана мы знайшлі. Прымем яго з пашанай і будзем яму ўдзячнымі за тое, што перасьцярог нас ад страшнай небясьпекі.

— Гэта добрая рада,—сказаў Лупаты.—А што нам скажа другі дараднік.

— Я таксама ня маю нічога супроць таго,—адказаў другі дараднік,—а толькі думаю, што нам трэба яшчэ скарыстаць парады таго Каркайлы наконт таго, як нам далей праводзіць вайну з Варонамі. І яшчэ я думаю, што як толькі ён адыдзе ад ранаў, няхай вядзе нас на тое месца, дзе хаваліся Вароны. Палецім з ім туды, пазабіваем усіх нашых ворагаў і тады будзем жыць сабе спакойна.

— Разумна раіш,—сказаў Лупаты.—Ну, а трэці што скажа?

— Я таксама ня маю нічога супроць таго, каб гасьцінна прыняць гэтага нашага палоньніка. Толькі я ня раіў-бы ляцець шукаць нашых ворагаў няма-ведама куды за дзевятую гару. Калі Каркайла ёсьць такі шчыры наш прыхільнік, дык няхай ён удзень вартуе наш замак ад неспадзяванага нападу, а ўначы мы й так нікога не баімся.

— Вельмі разумна гаворыш,—сказаў Лупаты.— Ну, а чацьверты дараднік што скажа?

Чацьверты дараднік зваўся Пугукалам. Гэта быў хмуры чалавек, хваравіты, і таму прывык бачыць ён усё ў найчарнейшым колеры. Ён слухаў прамовы сваіх таварышоў з вялікім незадавальненьнем і аж круціўся на сваім месцы. І цяпер, калі дайшла да яго чарга выказаць сваю думку, ён мусіў адхліпаць добрую хвіліну, каб уціхамірыць сваю злосьць, і гаварыць спакойна, як належыць дарадніку.

— Не разумею я,—так пачаў ён,—адкуль узялі мае шаноўныя папярэднікі, што гэты Каркайла ёсьць вялікі наш прыхільнік. Што ён сам выдае з сябе нашага прыхільніка, гэтага для нас яшчэ мала. Усё тое, аб чым ён нагаварыў нам пра вараняччыя замеры, па маёй думцы, чыстая брахня, бо пра тое мы ня маем ніякіх іншых вестак, апрача яго аднаго. Праўда, Вароны пакінулі сваё месца і паляцелі. Але ці канечне з тае прычыны, аб якой кажа нам Каркайла—сумняваюся. Праўда, мы знайшлі яго зьбітага і скрываўленага, але ці абавязкова праз тую раду, якую ён нібыта падаў Варонам. Сумняваюся. А што, калі ён папросту ўкраў у каго-небудзь срэбную ложку і праз гэта прыняў кару? А што, калі ён ёсьць толькі варанячы шпіён? Бо скажэце, калі ласка, што яго прымусіла быць такім гарачым нашым прыхільнікам? Што ён нам радня якая, сваяк?! Я таго ніяк не магу зразумець.

Сагнуў галаву пасьля гэтых слоў Лупаты, пазьвешвалі дзюбы й дараднікі, пачуўшы тыя словы. Дый сапраўды, з якой ласкі Каркайла стаў такім заўзятым савіным прыхільнікам? Тут нешта ёсьць незразумелае.

Але Каркайла чуў гэту прамову і падрыхтаваўся да адказу. Ён затрапятаў крыльлямі й папрасіў слова.

— Ну, Каркайла,—сказаў Лупаты. Чуеш, што кажа дараднік Пугукала. Здаецца, ты хочаш нешта адказаць на яго словы.

— Так, шаноўны Старшыня.

— Ну добра, кажы.



## IX

Калі-б я быў на тваім месцы, шаноўны Старшыня, — сказаў Каркайла ўсхваляваным голасам,—дык вось гэты Пугукала быў-бы ў мяне найстарэйшым дараднікам. Ён, сапраўды, вялікі патрыёт і разумны чалавек, ён шчыра дбае пра савінае дабро і супакой. Але, на жаль, шмат чаго і ня ведае. Я яму гэтага ня стаўлю ў загану. Але калі ён тут закрануў пытаньне, чаму я такі прыхільны да савінага роду, дык мушу расказаць гэту гісторыю. Даўно гэта было. Ужо будзе таму гадоў за пяцьдзесят. І вось здарылася аднаго разу так, што бацька таго Пугукалы, лятаючы кудысьці далёка за спажываю, заблудзіўшы, спазьніўся. Раніца наскочыла і ён бедны мусіў начаваць у нашым лесе. Але толькі ўбачылі яго Вароны, як зараз-жа кінуліся да яго з вялікім шумам і хацелі біць. Пачуўшы гэты шум, я прыляцеў на месца й пытаю, што тут за штурханіна.

— Сава! Сава!—закрычалі Вароны.—Паглядзі, вунь-дзе Сава сядзіць. Трэба яе забіць.

Бедны Пугукала сядзеў на галінцы, і ад такога перапалоху ўвесь толькі калаціўся. Вароны гур-

там накідаліся на яго, білі дзюбамі, дрэпалі кіпдзюрамі, рвалі на ім пер'е. Шкода мне стала беднага Пугукалы. І я крыкнуў да сваіх:

— Пачакайце?! Хіба ня бачыце, што гэта не Сава!

— Не Сава,—зьдзівіліся Вароны.—А што-ж такое?!

— Пугукала.

— Вось табе й на. А Пугукала хіба не Сава?

— Не Сава, а толькі Пугукала.

— А-а-а!

Я забіў Воронам клін у галаву.

— Дык што-ж нам рабіць?

— Дайце яму супакой,—сказаў я.

— А-а, вось як, калі ты кажаш...

— Так, так. І ўшчуваю ад імя рэспублікі.

Пачуўшы гэта, Вароны разьляцеліся, а я ўзяў беднага Пугукалу з сабою ў гнязло, захаваў яго аж да ночы і такім спосабам выратаваў яго ад сьмерці. Ён пакляўся мне адзякаваць за гэта й стрымаў словы. У часе вайны, якая адбывалася між намі й вамі, ён усё абмінаў маё гняздо й нікому не дазваляў рабіць мне крыўду. А аднаго разу, калі я позна ўвечары вяртаўся дамоў і папаў ужо ў кіпдзюры адной Саве, ён выратаваў мяне ад няміпучай пагібелі. Вось тады я й пакляўся быць да сьмерці ўдзячным ня толькі яму, але і ўсяму Савінаму роду. Гэта прысяга прымушала мяне заўсёды гаварыць на дзяржаўных нарадах проці вайны з вамі. Яна прымушае мяне й цяпер, калі наш Старшыня прагнаў мяне, служыць вам праўдаю.

Усе дараднікі былі вельмі ўсхваляваны, а Лупатаму аж сьлёзы навярнуліся на вочы. Ён абярнуўся да свайго найстарэйшага дарадніка і запытаў яго:

— Ну, што ты скажаш?

— Я думаю, вельмі шаноўны Старшыня, што забіваць гэтага чэснага старца нам зусім не падабае. Таксама не пада́бае нам рабіць з яго шпіёна. Прымем яго з павагаю, прыгорнем да сябе так шчыра, як ён заслугоўвае, слухайма яго мудрых парад, але, разумеецца, майма й свой розум.

— І я так думаю,—сказаў Лупаты.

З радасным крыкам павялі Совы Каркайлу да свайго замчышча. А калі ўзышлі на парог, Каркайла засланіў вочы правым крылом, спыніўся і прамовіў:

— Вельмі шаноўны Старшыня! Ня выходзіць мне ўступаць у вашы савіныя палацы.

— А гэта-ж чаму?—запытаў зьдзіўлены Лупаты.

— Сядзьце вось тут і я скажу вам.

Лупаты і ўсе дараднікі паселі пры ўваходзе ў палацы і Каркайла пачаў.



## X

Ад майго пакойніка бацькі,—сказаў Каркайла,—(хутка ўжо міне сто гадоў як ён памёр) чуў я, што даўно калісьці варажыла адна мудрая Сава пра жыцьцё вашага й нашага роду. З тае варажбы мне й досыць памятаецца адзін вершык:

Крумкач у савіным гнязьдзе—
быць совам у бядзе.

А я не хацеў-бы наклікаць бяду на твае палацы, вельмі шаноўны Старшыня, і таму прашу цябе пакінь мяне вось тут, на дварэ. Я зраблю сабе гняздо каля брамы вашага замка і, як верны вартаўнік, буду вартаваць удзень, каб мае сваякі не ўварваліся да вас і не нарабілі вам якое-небудзь шкоды.

Лупаты і яго дараднікі згадзіліся з гэтым, адзін толькі Пугукала недаверліва паківаў галавою.

— Ну, што, Пугукала,—абазваўся да яго Лупаты,—табе ізноў штосьці ня добра?

— Не падабаецца мне, што вы ўсе так верыце гэтаму старому брахуну. Ані мой пакойнік бацька не казаў мне нічога пра хэўру з Крумкачом, ані я ніколі ня чуў такога прароцтва.

— Хэ, шмат чаго чалавек ня чуе і ня знае, а яно ўсё ёсьць самая праўда,—адказаў Каркайла.

— А я баюся,—казаў далей Пугукала.—Не магу вам сказаць чаго, але баюся. Здаецца мне, што не змагу заснуць у замку, дзе Крумкач будзе вартаваць ля дзьвярэй. І ўсё мне ўспамінаецца гісторыя лісічкі з ямаю.

— Што-ж гэта за гісторыя?—запытаў Лупаты.

— Ды так сабе, простая гісторыя, але ў ёй маецца добрая навука.

— Ану, кажы, кажы.





## XI

Была сабе раз Лісічка,—пачаў казаць Пугукала,—і жыла ў выгоднай яма. Вось раз яна пашла на паляваньня і прабыла там досыць доўга. Вяртаецца нешта каля паўдня, дзівіцца—ой, ліханька. Перад яе ямаю на пяску сьляды Леопарда, абернуты да ямы, а сьлядоў з ямы ня відаць. «Эгэ,—думае сабе Лісічка,—тут нешта нядобрае. Значыць, Леопард залез у маю яму й сядзіць там, чакае, каб мяне зьесьці. Ой, бяда-ж мая! Што мне зрабіць, каб пераканацца ці сапраўды ён у яме».

Падумала Лісічка, ды й выдумала спосаб. Стала перад ямаю ды гукае:

— Добры дзень, яма!

А ў яме сапраўды сядзеў Леопард. Ён усю ноч бегаў па лесе, нічога не злавіў і, выгаладаўшыся, залез у Лісічкіну яму, думаючы: «Тут у гэтай яме напэўна жыве які-небудзь зьвер. Цяпер яго няма дома, пашоў на паляваньне. Але я пачакаю, калі ён прыдзе з паляваньня, і тады схаплю яго й зьем».

Але не на такога зьвера нарваўся.

Лісічка стаіць пры ўваходзе й гукае:

— Добры дзень, яма!

У яме ціха. Гукнуўшы разоў колькі, Лісічка нібы разгневалася.

— Што-ж ты, паганая яма,—пачала яна гукаць,—ня хочаш адказаць мне. Ты ўжо забылася, як мы ўмовіліся з табою, што ты будзеш адказваць мне, калі я прыду да цябе. Ну, калі ня хочаш адказваць, дык я пайду ад цябе й пашукаю сабе іншай ямы.

А Леопард сядзіць у яме, слухае Лісіціну гутарку і мяркуе сабе:

«Напэўна гэта Лісічка мела з ямаю ўмову і яма павінна адказваць ёй на пытаньні. А цяпер яма спалохалася мяне і маўчыць. Дай, крыкну сам».

І, нядоўга думаючы, як завые:

— Добры дзень, Лісічка!

А Лісічцы толькі таго й трэба было. Пачуўшы голас Леопарда, яна ходу ва ўвесь дух.

Вось так і нам, шаноўны Старшыня, трэба быць асьцярожнымі, як тая Лісічка,—скончыў сваё апавяданьне Пугукала.

— Фэ, фэ, Пугукала,—сказаў Лупаты. Зусім не да ладу тваё апавяданьне. Вось-жа сам чуеш, як шчыра гаворыць Каркайла, як ён папераджае нас, каб мы былі асьцярожнымі. Саромся быць такім злым і недаверлівым. А ты, дружа Каркайла, ня слухай яго балаканьня. Жыві сабе спакойна пад маёю апекаю й гнязьдзіся, дзе сам хочаш.

І з гэтым словам Лупаты з усім савіным народам уляцеў у замак на дзённы адпачынак, а Каркайла застаўся на дварэ.

— Слухайце, мае дзеці, сваты і сваякі,—сказаў Пугукала.—Ня веру я таму Крумкачу і вам раю ня верыць. Штосьці, памойму, тут ёсьць нядобрае. Прапаную загадзя пакінуць гэты замак, гэтага беднага асьлепшага Старшыню і яго дараднікаў і шукаць сабе іншага прытулку, чым хоць адзін дзень пра-

спаць пад даглядам Крумкача. А як вы думаеце?

— І мы так думаем!—загукалі сваякі.—Вядзі нас, мы ляцім за табою.

І, сабраўшыся, яны паляцелі шукаць сабе іншага месца.

А Каркайла, бачачы гэта, толькі радаваўся. Калі разьвіднелася, ён добра агледзеў савінуючя пяшчэру і калі ўбачыў, што яна мела ўсяго толькі адзін вузенькі праход, прамовіў сам да сябе:

— І вось гэта тыя дурныя Совы называюць сваім замкам, сваёю абаронаю. Ды гэта-ж наглая сьмерць і вечная небясьпека, а не абарона. Пачакай-жа толькі адно, я вам пакажу, якая вам тут будзе абарона.



## XII

Міналі дні за днямі. Каркайла ўсё яшчэ прыкідаўся слабым, не лятаў на паляваньне, а гадаваўся мышамі і птушкамі, якія па загаду Лупатага прыносілі для яго Совы.

Але ён распачаў будаваць сабе гняздо. Лятаючы па лесе, ён зьбіраў сухое ламачча, прыносіў яго і кідаў супроць уваходу да савінай пяшчэры. У сярэдзіне гэтай кучы ён зрабіў пасьцель з сухога лісьця і сухой травы. З дня-на-дзень тая куча рабілася ўсё большай і пачала памалу загароджваць уваход да савінай пяшчэры.

— Гэта я сумысьля раблю,—паясьняў ён Лупатаму.—Некалькі разоў ужо лятаў тут вараначыя шпіёны, хацелі адшукаць уваход да вашага замка, але цяпер за гэтаю кучаю ламачча ня змогуць убачыць яго.

Дурныя Совы яшчэ й рады былі, што Каркайла так верна вартуе іх замак, а ў Каркайлы тымчасам было сваё ў галаве. Аднае раніцы, выбраўшы адпаведную пару, ён узьняўся з свайго гнязда

і што-духу было паляцеў на Чорнагару. Прыляцеў у раньні абед і стаў у новым варанячым аседку.

— А, здароў будзь, Каркайла!—радасна закрычаў Старшыня, убачыўшы яго.—Доўга цябе ня было. Мы ўжо думалі, што цябе й на сьвеце няма. Ну што, як стаіць наша справа?

Усе Вароны зьдзівіліся, што Старшыня так ласкава размаўляе з Каркайлам, якога яшчэ так нядаўна люта біў і лаяў. Але Каркайла, не адказваючы на прывітаньне, скоранька загаварыў:

— Усё добра. Трэба рабіць справу. Няхай увесь народ зараз-жа зьбіраецца ў дарогу. Толькі хутка. Ад гэтага залежыць наша перамога.

Стараста аддаў загад Варонам узьнімацца на крыльлі.

— Слухайце мяне, дзеці,—сказаў Каркайла.—Як будзем ляцець праз лес, хапайце кожны ў дзюбу сухую галіну, якую хто можа несьці, і гайда за мною.

Паляцелі. Ужо за поўдзень прыляцелі ў лес, з якога некалькі тыдняў таму мусілі ўцякаць ад напасьлівых Соваў.

Каркайла загадаў трымаць сябе ціха і зьбіраць ламачча ў лесе, а сам паляцеў на пасьвішча. Там пастухі расклалі агонь і, пакінуўшы яго на хвіліну, пашлі заварочваць авец. Гэтую хвіліну скарыстаў Каркайла, ухапіў у свае кіпдзюры гаручую галавешку і паляцеў проста да ўваходу Савінага замка.

— За мною, дзеці!—скамандаваў Варонам.—Кідайце кожны сваю галіну перад самым увaходам да савінай пяшчэры ў кучу.

Пачалі Вароны кідаць гальлё і хутка накідалі такую кучу, што зусім загацілі ўваход у пяшчэру. А Каркайла тымчасам кінуў галавешку ў сваё гняздо, збудаванае пры ўваходзе, і пачаў над ёю

матаць крыльлямі. Галавешка разгарэлася, ад яе ўзялася гарэць сухая трава, ад травы сухое лісьце, а ад лісьця сухія ламачынкі.

— Матайце крыльлямі над агнём!—камандаваў Каркайла.



Заматалі крыльлямі сотні Варон, утварыўся вялікі вецер і цэлая куча ламачча разгарэлася яркім агнём. Увалілі клубкі густога, гарачага дыму ў савіны замак і пабудзілі Соваў ад салодкае дрымоты. У пяшчэры пачалася страшэнная трывога. З кожнай хвілінай рабілася гарачэй, душыў дым, усё гэта адбірала ў Соваў розум. Яны кідаліся ў пяшчэры туды й сюды, быццам шалёныя, некаторыя ляцелі проста на агонь і гінулі, як мухі, іншыя канаді ў шчылінах, душыліся, таўклі галовамі аб каменныя сьцены пішчалі й крычалі, але ўсё дарэмна. Не прайшло й гадзіны, як усе яны разам з Лупатым і дабрадушнымі дараднікамі загінулі ў той пяшчэры.

А Вароны й Каршуны цешыліся, што так хітра перамаглі сваіх страшных ворагаў. З таго часу яны маглі жыць сабе вольна ў сваім лесе і былі пазбаўлены небясьпекі ад Соваў. Іх род з таго часу вельмі размножыўся, а савіны род зрабіўся малым і нешматлікім. Па той-жа час Совы заракліся на векі вечныя нападаць на Варон і Каршуноў. А Каршуны й Вароны яшчэ й цяпер, дзе ня ўбачаць Саву, б'юць яе й лаюць.

Каркайлу-ж шанавалі ўсе да самай яго сьмерці.

